

# Дзяньніца
# Dziannica

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ ГРАМАДЗКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ" КАСТРЫЧНІК 2000 № 10

## У сёньняшнім нумары:

Аб сваіх творчых плянах распавядае знакаміты выканаўца ўласных песень, паэт і кампазытар Ален.

* * *

Фантаны зьяўляюцца неад'емнай часткай гарадзкой архітэктуры. Аб тым, што сабой уяўляюць наваполацкія фантаны і пра гісторыю іх збудаваньня чытайце ў нашым бюлетэні.

* * *

Выбары-2000 яшчэ доўга будуць згадвацца як прыклад бессаромнай фальсыфікацыі і грэбаваньня ўладамі фундамэнтальных асноваў дэмакратычнай дзяржавы. Чаго вартае адно толькі "ўдакладненьне сьпісу выбаршчыкаў", ці, папросту кажучы, выкрэсьліваньне прозьвішчаў грамадзянаў з выбарчых сьпісаў. У першым туры выбараў у Наваполацку было выкрасьлена блізу трох тысячаў чалавек. Пра абставіны "выбараў" у адным з гарадзкіх участкаў чытайце на 3-яй старонцы.

* * *

Хутка беларускае грамадзтва будзе адзначаць 70-я ўгодкі зь дня нараджэньня вялікага беларускага пісьменьніка Уладзімера Караткевіча. Матэрыял на гэтую тэму чытайце на 6-й старонцы.

Заўважым, што неўзабаве на бацькаўшчыне Караткевіча, у Воршы, мусіць адчыніцца мэмарыяльны музэй пісьменьніка, экспазыцыю якога распрацавалі наваполацкія мастакі-дызайнэры Ігар Куржалаў і Сяргей Дзьмітрыеў.

* * *

"Дзяды-2000" у Полацку, па старой завядзёнцы, былі адзначаныя ўрачыстай паніхідай ля Крыжа Пакуты, усталяванага на месцы забойства бальшавікамі беларусаў. Як і мінулым часам, з усіх канфэсіяў памяць палеглых ушанавалі толькі сьвятары ды вернікі грэка-каталіцкай царквы.



Красамоўным сьведчаньнем усенароднай падтрымкі адзінаправільнага курсу назвалі падняволыныя СМІ вынікі выбараў у палату прадстаўнікоў — дарэшты атрафіраванага воргана, які, па сваёй нутраной сутнасьці, зьяўляецца антыподам сапраўднага парлямэнту.

У Наваполацку на другі тур выбараў, паводле афіцыйных дадзеных, прыйшло крыху больш ад 40% выбарнікаў: гэтую лічбу і можна лічыць рэальнай.

Тыя, што прыйшлі да выбарчых скрыняў, добра разумелі, што палата зьяўляецца віртуальным утварэньнем, што палатнікі не кантралююць дзейнасьць выканаўчых структур, што яны нават ня ў стане пракантраляваць выкананьне бюджэту, фактычна пазбаўлены заканадаўчай ініцыятывы і асноўная іх функцыя: націсканьне пэўных кнопак пры зацьвярджэньні праектаў законаў, якія распрацоўваюцца ў нетрах выканаўчай «вэртыкалі». І ўсё-такі людзі прыйшлі да скрыняў, засьведчыўшы той сумны факт, што навачасны беларускі соцыюм у палітычным сэнсе адстаў ад цывілізаваных грамадзтваў Эўропы прынамсі на стагодзьдзе.

Тыя, хто кідаў бюлетэні ў скрыні, добра разумелі, што перадвыбарчыя абяцаньні кандыдатаў — гэта пустыя абяцанкі, і што кандыдаты тыя лезуць у парлямэнт, каб атрымаць сталічную кватэру, займець, у пэрспэктыве, халяўную пасаду альбо вывесьці свой бізнэс з-пад назолых вачэй кантралёраў. І ўсё-такі яны прагаласавалі за гэтых кандыдатаў, яшчэ на некалькі гадоў пазбавіўшы сябе і ўсіх нас сапраўднага парлямэнту.

Ну ўжо хто-хто, а прадстаўнікі апазыцыі добра ведалі — што зь сябе ўяўляе палата. І ўсёж многія зь іх кінуліся туды вылучацца, засьведчыўшы, што яны не дэмакраты і не апазыцыянэры, а звычайныя шкурнікі.

І, нарэшце, журналісты — асобая каста людзей, якія ўсё ведаюць і ўсё разумеюць, паведамілі нам, што выбары ў палату — гэта "путь к процветанию", лішні раз засьведчыўшы сваю мацёрую беспрынцыпнасьць.

Зрэшты, ня будзем надта суворымі да журналістаў — ім трэба карміцца самім і карміць свае сем'і. Ды і не вядома — хто мусіць расквітнець. Ну не беларускі ж народ! Хутчэй ад усяго журналісты мелі на ўвазе дэпутатаў-біяробатаў, якія ранейшым часам былі запраграмаваныя на ўздыманьне правай рукі, а цяпер — на націсканьне правай кнопкі.

А вось паэты-песеньнікі чамусьці прамаўчалі і ня ўславілі ўсенародных выбараў. Ну ды нічога. Паэтам, магчыма, хутка давядзецца браць удзел у рэспубліканскім конкурсе на лепшы патрыятычны "Марш палатнікаў", рэфрэнам для якога мы прапануем узяць наступныя, напісаныя на зразумелай для палатнікаў мове, радкі:

*"А мы с тобой, брат, будем процветать —*
*Сидеть в палате и на кнопки нажимать".*

Дзяньніца Dziannica

# У НОВАЕ СТАГОДЗЬДЗЕ — З НОВЫМІ ПЕСЬНЯМІ



***Апошнім часам сышоў у цень папулярны сьпявак, паэт і кампазытар Ален. Прыхільнікі ягонага таленту рэдка бачаць сьпевака на сцэне, нічога ня чутна і пра ягоныя новыя магнітаальбомы. Пайшлі чуткі, што Ален наогул закінуў творчасьць і ня сёньня, дык заўтра зьедзе на сталае жыхарства за мяжу. Каб спраўдзіць — наколькі такія чуткі адпавядаюць рэчаіснасьці, мы вырашылі зьвярнуцца па камэнтар да самога сьпевака.***

*— Перш-наперш адкажы — ты сапраўды закінуў творчасьць?*

— На гэтае пытаньне адкажу словамі глыбокапаважанага Ўладзімера Ўладзімеравіча Пуціна: "Не дачакаецеся!" Пакуль жывы,буду складаць песьні. Скажу больш: я зьбіраюся складаць іх нават пасьля сыходу ў іншасьвет, калі, вядома, там будуць адпаведныя ўмовы.

*— Карацей кажучы — працуеш...*

— Працую, прычым так, як раней ніколі не працаваў.

*— А чаму ж цябе ня бачна на сцэне?*

— Сёньня практычна немагчыма займацца канцэртнай дзейнасьцю. А таму трэба шукаць іншых, больш сучасных сродкаў камунікацыйнай сувязі са спажывальнікамі музычнай прадукцыі. Зрэшты, іх і шукаць ня трэба — яны даўно вынайдзены і даўно эксплюатуюцца сур'ёзнымі музыкамі.

*— Ты маеш на ўвазе відэа-, аўдыя- ды іншае прычандальле?*

— Я маю на ўвазе менавіта гэта.

*— Ну і што ўжо ў гэтым пляне зроблена?*

— Акурат цяпер рыхтую відэавэрсію свайго акустычнага канцэрту, дзе гучаць песьні бардаўскага накірунку. Песьні гэтыя напісаныя мною цягам апошніх двух гадоў і сярод іх вылучаюцца гітарныя зонгі нью-ёрскага цыклю.

Апрача таго, толькі што пабачыў сьвет музычны альбом "Толькі сон" у CD-ромаўскай і аўдыявэрсіях. Заўважу, што альбом прыкладна на 70% складаецца з новых рэчаў.

Ну і яшчэ адзін праект, за які мы ўзяліся з Васілём Храмцовым — гэта запіс кагадзе ўтворанага гурту "Атава", які выконвае беларускі фольк у навачаснай аранжыроўцы. Некалькі песень ужо запісана і, па сьведчаньні тых, хто іх чуў, яны проста зачароўваюць і хвалююць беларускую душу.

*— На колькі нам вядома, рыхтуецца пабачыць сьвет і, так бы мовіць, папяровая вэрсія тваёй творчасьці.*

— Не хацелася б, каб не сурочыць, многа казаць на гэтую тэму, але раз ужо пытаньне прагучала...

Выданьне, пра якое ідзе гаворка, для Беларусі ўнікальнае. Гэта зборнік песень з нотамі. Называецца зборнік "Крок зь цемры" і складаецца больш як з 60-ці песень. Выйдзе зборнік у палепшаным паліграфічным выданьні, а рэдагуе яго наш вядомы пісьменьнік Уладзімер Арлоў.

*— Ва ўсёй гэтай тваёй чыннасьці мусіць праглядацца нейкая канцэпцыя. Ня мог бы ты яе сфармуляваць?*

— Я мог бы сфармуляваць не канцэпцыю, а задачу. А яна адна: мы павінны ня толькі апававаць айчынны рынак сваёй, беларускамоўнай поп-музыкай, але і прасунуцца на музычныя рынкі суседніх дзяржаваў. Творчы патэнцыял дзеля гэтага ёсьць. Праблема адна: грошы. Але і іх, пры жаданьні, можна знайсьці.

Скажу яшчэ прыканцы, што адраджаць краіну мусяць таленавітыя і працавітыя людзі. Якасная літаратура, мастацтва і музыка — вось тры кіты, на якіх павінна паўстаць Беларусь XXI стагодзьдзя.

*Размаўляў В. М.*

# ІМ НЯМА ДАРАВАНЬНЯ

Мусім сказаць у прэамбуле, што наш горад да апошняй пары быў адзіным у рэспубліцы, дзе былі правалены выбары ў мясцовы Савет. З гэтай нагоды тутэйшыя "вэртыкальныя" кіраўнікі напярэдадні новых выбараў атрымалі загад: любым чынам забясьпечыць абраньне палатніка і дэпутацкага корпусу. У выніку тое, што назіралася ў Наваполацку 15 кастрычніка і блізу не нагадвала свабоднае і дэмакратычнае волевыяўленьне электарату. Чаго вартае адно "ўдакладненьне сьпісу выбаршчыкаў", папросту кажучы бессаромнае выкрэсьліваньне выбаршчыкаў са сьпісаў з мэтаю падвышкі адсоткі прагаласаваўшых. Па сьведчаньні кіраўніка групы назіральнікаў ад дэмакратычных арганізацыяў Васіля Главацкіх агулам са сьпісаў было выдалена каля 3-х тысячаў выбаршчыкаў, пры гэтым дакумэнтальнага пацьверджаньня правамернасьці такіх захадаў у "крэсьляроў" не было.

Пазіраючы на дзеяньні арганізатараў выбараў стваралася ўражаньне, што яны забыліся пра існаваньне 131 артыкулу Крымінальнага Кодэксу, паводле якога за фальсыфікацыю выбараў можна атрымаць тры гады адседкі. Вядома ж, цяпер, калі ў нас растаптаная Канстытуцыя, іх ніхто не пасадзіць. Больш таго: гэтыя людзі відавочна атрымаюць якую прэмію ці "благодарственное письмо" гарвыканкаму. Але ж часіны мяняюцца і многія з тых, хто фальсыфікаваў вынікі выбараў рана ці позна павінны — у адпаведнасьці з законам — панесьці пакараньне.

Паказальным у гэтым пляне выглядала падвядзеньне вынікаў выбараў на 9-м участку Наваполацкай выбарчай акругі №25.

Як і паўсюль, на гэтым участку а дваццатай гадзіне зачыніліся дзьверы і камісія пачала падлік галасоў. Шматкроць пералічылі бюлетэні, але на патрэбную "вэртыкалі" лічбу ня выйшлі: у галасаваньні ўзяла ўдзел меней 50 адсоткаў выбаршчыкаў. Старшыня камісіі — прафэсар тутэйшага ўнівэрсытэту сп. Панцялеенка патэлефанаваў у выбарчую акругу і, відавочна, атрымаў дырэктыву: забясьпечыць — ужо пасьля падліку бюлетэняў — яўку выбаршчыкаў. Зрабіць гэта можна было толькі скараціўшы іх агульную колькасьць. Спадар Панцялеенка і прапанаваў гэта зрабіць.

Заўважым, што выкрэсьліваньне выбаршчыкаў са сьпісу пасьля заканчэньня галасаваньне — гэта якраз тое дзеяньне, якое падпадае пад вышэйзгаданы артыкул і адзін з сябраў камісіі, юрыст па адукацыі, не



пажадаў быць "падзельнікам" у злачынстве і сышоў з участка. Гэта не спыніла ягоных калегаў і са сьпісу было выкрасьлена каля ста прозьвішчаў грамадзянаў — студэнтаў, што жывуць у інтэрнаце №2 і якіх, па сьведчаньні сп. Панцялеенкі, у дзень галасаваньня не было ў горадзе.

На наступны дзень назіральнікі, што прысутнічалі на ўчастку сумесна з актывістамі праваабарончага цэнтру "Вясна" наведалі студэнцкі інтэрнат і пераканаліся: многія з тых, хто быў выдалены са сьпісу ня толькі не зьяжджалі з горада, але ў дзень выбараў нават не выходзілі з інтэрнату. Назіральнікі зьвярнуліся ў пракуратуру і неўзабаве атрымалі адказ.

"24.10. 2000 года прокурором города, — гаварылася ў адказе, — в адрес Новополоцкой городской территориальной избирательной комиссии внесено представление об устранении выявленых нарушений Закона, в котором поставлен вопрос о признании выборов в Новополоцкий городской Совет по участку №9 недействительными. В адрес Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов также направлено представление об устранении нарушений избирательного законодательства с требованием провести по Новополоцкому избирательному округу №25 повторный подсчёт голосов".

Адначасова ў звароце паведамлялася, што крымінальную справу па арт. 131 КК РБ супроць сябраў выбарчай камісіі пракуратура заводзіць не збіраецца, бо — на яе думку — у іх дзеяньнях адсутнічае склад злачынства.

Атрымаўшы такую паперу, у Наваполацак пажарным парадкам завіталі прадстаўнікі ЦВК. Людзі ведамства сп-ні Ярмошынай сустрэліся з сябрамі выбарчай камісіі, перагарнулі, дзеля прыліку, нейкія паперы і вынесьлі ўласны вэрдыкт, які ў сьціслай форме гучыць так: у ходзе праверкі парушэньняў заканадаўства на выбарчым участку №9 не выяўлена.

Цяпер наваполацкія праваабаронцы рыхтуюць адпаведны зварот у Генпракуратуру, спадзяючыся, што галоўныя дзяржаўныя пракуроры скажуць сваё важкае слова і вынікі выбараў будуць у рэшце рэшт прызнаныя несапраўднымі.

І, нарэшце, яшчэ адна заўвага. Кантроль за выбарамі на 9-м участку ажыцьцяўлялі сябры праваабарончага цэнтру "Вясна" і ўсё адно — той жа сп. Панцялеенка на пабаяўся пайсьці на парушэньне заканадаўства. Можна сабе ўявіць — як праходзілі выбары там, дзе наогул не было ніякіх назіральнікаў. Ці не таму ў суседняй Расоншчыне "вэртыкаль" дасягнула "брэжнеўскіх" паказальнікаў яўкі выбаршчыкаў.

І апошняе. Мы, людзі, у якіх сэрцы баляць не за ўласную кішэнь і не за кіруючае крэсла, а за родную Беларусь і за лёс дэмакратыі ў нашай краіне, не павінны даваць рукі тым, хто бессаромна фальсыфікаваў выбары. Людзям гэтым няма дараваньня.

***В.М.***

# З ГІСТОРЫІ НАВАПОЛАЦКІХ ФАНТАНАЎ



Пра фантаны звычайна пішуць з натхненьнем, не шкадуючы красамоўных эпітэтаў. Ды яно і зразумела: водная феерыя заўсёды лагодзіла людзкі зрок. Пра наваполацкія фантаны, аднак, нічога такога не напішаш, а таму адкінем прэамбулы і засяродзімся на гісторыі іх стварэньня.

Такім чынам, першы ў нашым горадзе фантан збудавалі ў 1969 годзе непадалёку ад крамы "Паўлінка". Спаруда гэтая, а дакладней кажучы ейны базальтавы падмурак, захаваўся і па сёньня, але выконвае ўжо не эстэтычныя, а утылітарныя функцыі: на ім сядзяць вулічныя гандляркі. Па сваёй канструкцыі першы гарадзкі фантанец быў немудрагелістым: шэсьць вэртыкальных патрубкаў пасярод невялічкага басэйну. Пры гэтым вада шугала ўгору ня болей, чым на мэтар. Адразу ж пасьля пуску фантана ўзьніклі складанасьці з водаатводам. Адводная труба ўвесь час забівалася сьмецьцем, вада поўніла басэйн і часьцяком лілася праз край. Праблему водаатводу вырашылі даволі хутка: фантан засыпалі зямлёй, ператварыўшы ў кветнік.

Праз колькі гадоў, а калі казаць больш дакладна — у 1972 годзе — быў здадзены ў эксплюатацыю гандлёвы цэнтар "Пралеска", а каля яго збудавалі яшчэ адзін фантан, які ўяўляў зь сябе пяць масянжовых цыліндраў, зь якіх з шумам хвастала вада. У такім выглядзе ён праіснаваў пяць гадоў і, зь невядомай прычыны, быў кардынальным чынам перабудаваны. Замест масянжовых труб у цэнтры фантану ўсталявалі бэтонную фігуру Нэптуна, з макаўкі якога біў кволенькі струмень. Наваполацкі марскі бог, зразумела, праігрываў клясычным узорам і быў мала падобны да Нэптуна з рымскай плошчы П'яца Навона, аднак цурчэла вада, зіхцела вясёлка; сьпякотнымі днямі ў фантанным басэйне плюхкалася малеча, а прахалоднымі вечарамі — падпітыя мужчыны, якія, сьледам за Іхціяндрам, дэманстравалі сваю зухаватасьць кабетам, зь якімі разам гулялі ў рэстаране. Неўзабаве ваду ў фантане адключылі, фантанны басэйн ператварыўся ў гразенакапляльнік, на "берагах" якога быў разгорнуты гандаль пакарабачанымі вэласіпэднымі рулямі, парватымі ланцугамі, замкамі без ключоў ды іншым мэталёвым хломаздам. Штогоду гарадзкія ўлады абяцаюць давесьці фантан да ладу, але абяцанкі гэтыя завісаюць у паветры і бэтонны Нэптун зь цягам часу стаў успрымацца як помнік мясцовай лукашэнкаўскай "вэртыкалі".

Канец сямідзесятых — пачатак





Наш аповед будзе няпоўным, калі мы не прыгадаем сумную гісторыю яшчэ аднаго фантана, усталяванага ў свой час будаўнікамі польскай фірмы “Энэргаполь”. Фантанец месьціўся ля дома, які народ мянуе “польскім”. Палякі ня толькі сачылі за тэхнічным станам згаданага аб’екта, але й рэгулярна стрыглі траву, што надавала мясцовасьці ангельскі флёр. Пасьля ад’езду палякаў фантанчык абязводнілі, навакольны лужок ператварылі ў месца выгула сабак і гэта вярнула яму звычайны савецкі выгляд.

васьмідзесятых гадоў быў адзначаны запускам двух фантанаў высокай магутнасьці. Ужо на падыходзе да дзіцячай музшколы і кавярні “Новапалачанка” чуўся дзіцячы віскат, паветра скаланалася ад мужчынскага рогату і ў небе — у радыюсе двухсот мэтраў наўкол — зіхцеў і пераліваўся на сонцы водны пыл. Вада біла як з бранспойту, помпы працавалі з поўнай пагрузкай, спажываючы пры гэтым n-ную колькасьць электраэнэргіі, якая імкнулася калі не да бясконцасьці, дык, прынамсі, да лічбы пагрозьліва-ўнушальнай.

Гэта абставіна і прывяла да таго, што фантаны цяпер ўключаюць адно па выхадных — і то не заўсёды, ды і вада зараз б’е ў лепшым выпадку на пару мэтраў.

Тым жа часам зьбіраліся ўладкаваць яшчэ адзін фантан — ля радзільнага аддзяленьня гарбальніцы: сьпехам зрабілі бэтонныя ночвы, абляпілі іх керамічнай пліткай, плітка адразу ж адвалілася і шчасьлівыя парадзіхі ўжо два дзесяцігодзьдзя запар назіраць з бальнічных вокнаў манумэнтальны помнік — гэтым разам вясёлай брэжнеўскай эпосе.





Гісторыя наваполацкіх фантанаў выяўляе, як нам здаецца, адметную мэнтальнасьць тутэйшага люду. Можна многа і пераканаўча казаць пра эканамічны крызыс, пра адсутнасьць сродкаў, але згадаем: тыя ж ангельцы падстрыгаюць траву ля свайго дому зусім не таму, што дзеля гэтага выдатканы грошы зь бюджэту. Яны робяць гэта выключна з нутраной патрэбы. У нас жа эстэтычны кампанэнт у сьвядомасьці цалкам адсутнічае, таму нашу краіну і не пускаюць у цывілізаваную Эўропу.

***В.З.***

# НАШ КАРАТКЕВІЧ



26 лістападу спаўняецца 70 гадоў з дня нараджэньня Ўладзімера Караткевіча — аднаго зь нешматлікіх творцаў, якога з поўным на тое правам можна назваць вялікім беларускім пісьменьнікам.

Усе мы, адраджэнцы сямідзесятых, любілі яго. Любілі за тое, што ён ратаваў гонар беларускай літаратуры, што не лізаў капытоў савецкаму ідэалягічнаму чорту, не пісаў, у адрозьненьне ад астатніх "членаў" Саюзу пісьменьнікаў, панегірыкаў партыі і ленінскаму камсамолу. На тле ўсеагульнага бяспамяцтва і халуйства ён выглядаў асілкам нацыянальнага духу і застаўся такім назаўсёды.

Край сагнуўся ў сьпіне,
Край баіцца размовы пра волю,
Край згубіў сваю мову
І матчынай песьні напеў...
Нельга верыць у Бога,
Калі ён такое дазволіў.
Цяжка верыць у люд свой,
Калі ён такое сьцярпеў.

Кожны з нас паўтараў гэтыя караткевічаўскія радкі і ў душах нашых, як тая збажына на азяродах, дасьпявала хмельная ярасьць.

Мы любілі яго і ўсё адно — толькі пасьля ягонай сьмерці дарэшты зразумелі — каго страцілі.

Цёплым ліпеньскім днём 84-га я сустрэў на вуліцы Навума Гальпяровіча — невясёлага, пасуравелага з твару — і той паведаміў: — Памёр Караткевіч.

Ад такой навіны балюча сьціснулася сэрца, я цэлы дзень хадзіў ачмурэлы, а ўвечары, сустрэўшыся з Алехнам Мінкіным, мы памянулі любімага пісьменьніка.

— Як ты думаеш, можа атруцілі? — запытаў тады я сябра.

— Ды не... Бачна было, што шмат не працягне. Адны вочы сьвяціліся, — прамовіў Алехна : напярэдадні сябар езьдзіў у Менск і там пазнаёміўся з Караткевічам. — Зайшлі да яго з Глёбусам, наліў нам па чарцы, кніжку надпісаў. Казаў: трэба, хлопцы, працаваць. Толькі працай і можна чагосьці дасягнуць.

Таго ж вечару мы вырашылі выдаць самвыдатам кніжку успамінаў пра Караткевіча. Пазнаёмілі з гэтай ідэяй Арлова з Воюшам. Нават узяліся зьбіраць такія-сякія матар'ялы, але неўзабаве мусілі зьехаць на Поўнач і праект гэты так і ня быў нерэалізаваны.

А мінулым годам атрымаў я ліст з далёкай Альбаніі. Напісаў яго прафэсар філялёгіі Коча Біхіку. "Ці ведаеце Вы такога Ўладзімера Караткевіча?— пісаў прафэсар, — у 1949-54 г.г. мы зь ім вучыліся разам у Кіеўскім унівэрсытэце. Ён ужо тады пісаў вершы, а потым, па чутках, стаў прафэсійным літаратарам. Калі ласка, паведаміце мне адрас Караткевіча ці перадайце яму мой адрас."

Што я мог напісаць у адказ? Напісаў, што Ўладзімер Караткевіч, клясык нашай літаратуры, памёр шаснаццаць гадоў таму, што яму пастаўлена два помнікі і на радзіме, у Воршы, ствараецца мэмарыяльны музэй.

А зусім нядаўна завітаў я ў майстэрню мастака Ігара Куржалава.

— Хочаш паглядзець цікавыя рэчы? — запытаўся мастак. — Працую над экспазыцыяй музэю Караткевіча, маю тут ягоныя рукапісы ды асабістыя рэчы.

Я, не без хваляваньня, перагарнуў старонкі рукапісу драмы "Млын на Сініх Вірах", узяў у рукі студэнцкі білет, разгарнуў альбом выпускнікоў філфака Кіеўскага ўнівэрсытэту і ўбачыў, у акуратных авалах, здымкі Ўладзімера Караткевіча і Коча Біхіку. Албанец атрымаўся на фотаздымку надта сур'ёзным, а вось Караткевіч пасьміхаўся з фотаздымку і такім — маладым і вясёлым жыцьцялюбам — ён і застаўся ў памяці сучасьнікаў.

*В. Мудроў.*

# АДРОДЖАНАЯ ЗЬ НЯБЫТУ

*22 кастрычніка ў Полацку надарылася адметная падзея: тут, у памяшканьні Гарадзкога палацу культуры, прайшоў Першы фэстываль гэбрайскай кнігі.*

Прысьвечаны ён быў выдатнай постаці гэбрайскай культуры, ураджэнцу беларускай зямлі Бэн-Іегудзе — чалавеку, які вярнуў да жыцьця некалі мёртвую мову іўрыт. Наогул, наша зямля сталася месцам нараджэньня многіх знакамітых і паважаных у сьвеце гэбраяў — адзін іх пералік заняў бы шмат месца. І першым сярод гэтых людзей варта згадаць Эліэзэра Бэн-Іегуду.



כי רעות שבאות, לעולם
לא תתן את לבנו לשכח.
אהבה מקדשת כדם
את תשובי ביתנו לפתח.

נתן יונתן

חופים הם לפעמים

חופים הם לפעמים נעגעים לנחל שאהב.
יש במקריות שלנו נחלי אכזב.
ראיתי פעם חוף
שעזבו הנחל ושכחו
והוא נשאר עם לב שבור של אבנים וחול.
גם האדם יכול
שישאר נטוש ובלי כוח
כמו החוף.
אף הצדפים
כמו שחפים או כחופים.
גם הצדפים הם לפעמים נעגעים
לבית שהיה
ורק הים
שר שמה את שיריו.
כך בין צדפי לבו של האדם שרים לו נעוריו.

ציור של ילדים

אז תבל היתה כמו שהילדים ציירוה
חרציות של זהב
שמשות קטנות של ילדותי
לב מאהב

סוסי הלבן רעה בדשא
דבורים ארי וכבש
ילדים לכדו פרפרים ברשת

ותבל כמו שהילדים ציירוה
למעלה לבן של רוח
מתחת לרוח — שמים פרחים אדמה
חיות שרשים מים
למטה מהם קו.
מה רואים אחריו?
שוב מתחילה הרוח
שמים פרחים אדמה
חרציות של זהב
אחר־כך קיץ
אחר־כך סתו.
אחר־כך... אבא, נגמר לי הדף.

Калі ў другой палове XIX ст. у галовах гэбрайскіх інтэлігентаў узьнікла ідэя адраджэньня незалежнай дзяржавы Ізраіль, ніхто з тых інтэлігентаў не разьлічваў зрабіць іўрыт афіцыйнай мовай адроджанай дзяржавы. І ня толькі таму, што ў ёй адсутнічалі самыя элемэнтарныя словы. Іўрыт быў мовай малітваў і рэлігійныя юдэі лічылі сьвятатацтвам карыстацца ім у побыту. Аднак знайшоўся чалавек, які зьдзейсьніў немагчымае: вярнуў народу ягоную пракаветную мову. Гэта быў Лазар Пэрэльман.

Нарадзіўся Лазар Пэрэльман у сярэдзіне мінулага стагодзьдзя ў мястэчку Лужкі навачаснага Шаркаўшчынскага раёну. Бацька ягоны памёр, калі хлопцу стукнула пяць гадоў, а ў трынаццацігадовым узросьце маці выправіла сына ў Полацак — вучыцца ў тамтэйшым ешыботе. На той час сыстэма гэбрайскага навучаньня канчаткова здэградавала. У ешыботах, скажам, было забаронена вывучаць іўрыцкую граматыку, а замест Торы вывучаўся Талмуд, які ўтрымліваў толькі камэнтары да Торы.

Маладому Лазару, аднак, пашанцавала: рэктар ешыботу быў дысыдэнтам і, пабачыўшы Лазаравы здольнасьці, стаў індывідуальна вучыць хлопца старажытнай мове. Іўрыт Лазара папросту ачараваў і маці, дачуўшыся пра дзіўныя сынавы захапленьні, забрала яго з ешыботу і перадала "на выхаваньне" свайму брату, які жыў у Глыбокім і лічыўся багатыром. Але і пад наглядам роднага дзядзькі Лазар увесь вольны час прысьвячаў улюбёнай справе: вывучэньню іўрыта, за што атрымаў ад местачкоўцаў мянушку "маскіл", што значыць вар'ят. У той жа час ён стаў завітваць у хату да Шмуэля Ёнаса, які быў адным з самых адукаваных людзей у Глыбокім. Хлопец паклаў вока на старэйшую дачку паважанага глыбачаніна Дэбору — адукаваную паненку, якая ўзялася дасканаліць Лазаравыя веды ў расейскай мове. Паненка падахвоціла хлопца сесьці за падручнікі — ён выправіўся ў Дзьвінск ды паступіў у рэальную вучэльню.

Неўзабаве прысьпеў 1877 г. — год пачатку чарговай расейска-турэцкай вайны за вызваленьне Баўгарыі ад атаманскага ярма. "У той час нібыта нябёсы раскрыліся, і нутраны голас прамовіў: "Адраджэньне Ізраіля на зямлі продкаў!"— напісаў пазьней Бэн-Іегуда. У маладую і гарачую галаву прыйшла апантаная думка: калі баўгары прагнуць вызваленьня сваёй радзімы ад турэцкага панаваньня, дык чаму б гэбраям не адваяваць у асманаў Палестыну і не абвясьціць там незалежную гэбрайскую дзяржаву. І яшчэ Лазар Пэрэльман падумаў, што цэмэнтам, які злучыць нацыю, мусіць стаць пракаветны іўрыт.

Ідыш, якім карысталіся гэбраі Цэнтральнай Эўропы, на ролю такога лучва ніяк не падыходзіў. Узьнікла гэтая мова на выгнаньні, на аснове нямецкіх ды славянскіх дыялектаў і, адпаведна, ня мела генэтычнай памяці. А таму, калі нашчадкі Макавеяў адваююць сваю радзіму, яны мусяць размаўляць на сваёй старажытнай мове.

Мінуў час, Лазар Перэльман апынуўся ў Парыжы, куды паехаў вучыцца на лекара, і першае, што там зрабіў, гэта надрукаваў у тамтэйшым часопісе "Хашахар" артыкул, у якім паяднаў адраджэньне гэбрайскай дзяржаўнасьці з адраджэньнем іўрыту. "Мы маем мову, на якой і сёньня можам пісаць і выказваць абсалютна ўсё,"— напісаў ён у артыкуле, падпісаўшы яго псэўданімам Эліэзэр Бэн-Іегуда, што азначае Сын Юдэі. Адначасова Эліэзэр Бэн-Іегуда пачаў складаць слоўнік жывога іўрыту; частку словаў ён запазычваў зь сьвятых кнігаў юдаізму, а частку прыдумляў самастойна, абапіраючыся на правілы іўрыцкага словаўтварэньня.

Хранічнае безграшоўе і нястача зрабілі сваю справу — Эліэзэр захварэў на сухоты і мусіў выправіцца папраўляць здароўе ў сьпякотны Альжыр. Там ён пазнаёміўся з усходнімі гэбраямі-сэфардамі і пераканаўся, што іхняя мова найбольш блізкая да старажытнагэбрайскай асновы. Там жа, у Альжыры, Эліэзэр сфармуляваў мэту свайго жыцьця: ён паедзе ў Палестыну, але не ў якасьці лекара, а ў якасьці Настаўніка — ён будзе навучаць народ забытай мове. Але лёгка было сказаць: вучыць народ. Ды як гэта ажыцьцявіць на практыцы? Як прымусіць людзей загаварыць на чужой мове, калі ў цябе няма ні арміі, ні грошаў, а ў краіне пануе чужародны султан-цемрашал Абдул-Гамід?

У жыцьцёвым сцэнары Бэн-Іегуды бракавала выканаўцы жаночай ролі і Эліэзэр прапанаваў руку і сэрца сяброўцы юнацтва Дэборы Ёнас. Праўда, з адной умовай — размаўляць міжсобку толькі на іўрыце. І вось, у 1881 годзе маладыя прыехалі ў Іерусалім. Там Эліэзэр апрануў сэфардзкія строі і з кожным стрэчным гаманіў на іўрыце. Новыя словы ён цяпер прыдумляў сотнямі і адразу ж запускаў у народ. Дзеля гэтага выкарыстоўваў сваю жонку. Дэбора хадзіла па крамах і рабіла справункі, карыстаючыся выключна іўрытам.

Праз год нарадзіўся сын Ітамар, зь якім — рэч зразумелая — бацькі гаманілі выключна на старажытнагэбрайскай мове.

У 1888 г. Дэбора памерла — сталася ахвярай іўрыту. Жанчыне было толькі 33 гады. Неўзабаве ў Іерусалім прыехала яе малодшая сястра Хемда — каб падтрымаць пляменьніка і дапамагчы Эліэзэру. У хуткім часе яна выйшла за Эліэзэра замуж.

Моўная сытуацыя да таго часу зьмянілася: іўрыт сталі выкладаць у школах, а ў 1896 г. у мястэчку Рэхавот адчыніўся першы іўрыцкі дзіцячы сад. Зрэшты, многія ўплывовыя людзі, у тым ліку і лідары сыянізму, даволі скептычна ставіліся да спробаў адраджэньня старажытнай мовы. "Ці ведае хто з вас іўрыт настолькі, каб набыць квіток на цягнік?" — рытарычна пытаўся ў 1884 г. заснавальнік сыянісцкага руху Тэадор Герцаль. Але ў Бэн-Іегуды ўжо працавала цэлая "фабрыка іўрыту" і праз трыццаць гадоў на адроджанай мове сталі выкладаць фізыку, супрамат, хімію ды іншыя навукі, а ў 1920 г. брытанская адміністрацыя Палестыны абвясьціла іўрыт, поруч з арабскай ды ангельскай, афіцыйнай мовай.

Сёньня на адроджаным да жыцьця іўрыце размаўляюць шэсьць мільёнаў жыхароў Ізраіля. І гэта ёсьць дакорам нам, беларусам. Дакладней, тым зь іх, якія, разам зь бязроднымі прыблудамі, дратуюць нашу беларускую мову, нясуць на сьметнік духоўны набытак папярэдніх пакаленьняў. "Будзьце вы праклятыя!"— хочацца сказаць гэтым герастратам, аднак змаўчым. Сунімем эмоцыі, пагатоў высілкі герастрацкія марныя. Бо яна неўміручая як Фэнікс, наша мова.

***У матар'яле выкарыстаны рэфэрат пісьменьніка Аляксандра Чарніцкага "Іўрыт і Бэн-Іегуда", зь якім ён выступіў на фэстывалі гэбрайскай кнігі.***

# ДЗЯДЫ Ў ПОЛАЦКУ

Сёлетні Дзень памяці продкаў быў, па старой завядзёнцы, адзначаны жалобным набажэнствам ля Крыжа Пакуты.

Крыж гэты быў усталяваны дзесяць гадоў таму ля Бельчыцкіх могілак — месца, дзе, па сьведчаньні відавочцаў, сталінскія галаварэзы забівалі беларусаў. І штогоду, на Дзяды, сюды прыходзяць палачане, каб ушанаваць памяць ахвяраў таталітарных рэжымаў.

Сёлета жалобную паніхіду за спачын душаў бязьвінна забітых адправіў апостальскі візытатар дзеля грэкакаталікоў на Беларусі, архімандрыт Сяргей Гаек, пасьля чаго прагучала


Дзяды. Бельчыца. 1990 год

сумесная малітва за Бацькаўшчыну і ля падножжа Крыжа былі запаленыя памінальныя васкоўкі.

У сваім кароткім слове колішні сябар Саюзу беларускіх патрыётаў і вязень ГУЛАГу Леў Бялевіч выказаў падзяку мясцовай грэка-каталіцкай грамадзе за яе рупеск у справе ўшанаваньня памяці ахвяраў бальшавіцкага тэрору, а гісторык Міхась Баўтовіч назваў апошнія, удакладненыя лічбы тых ахвяраў.

Прагучала таксама думка пра тое, што беларускі соцыюм у сваёй бальшыні пазбаўлены гістарычнай памяці. Тыя ж сталінскія рэпрэсіі так да канца і не ўсьвядомлены сёньняшнім пакаленьнем і ёсьць небясьпека, што жахі і трагедыі, якія зьведаў народ цягам 20-га стагодзьдзя, могуць паўтарыцца.

**В. М.**

RFE/RL



# РАДЫЁ СВАБОДА

## BELARUS SERVICE RFE/RL

***У Аляксандра Лукашэнкі былі матывы, каб фінансавць левую апазыцыю у Расеі. Такую думку выказваюць расейскія палітолягі, камэнтуючы скандал вакол заяваў Тамары Рохлінай.***

Нагадаем, што паводле пэўных зьвестак, на закрытым паседжаньні маскоўскага суду ўдава генэрала Льва Рохліна заявіла, што Лукашэнка дапамагаў яму грашыма на арганізацыю выступу сілавікоў у Расеі. Адвакаты Рохлінай пасьпяшаліся заявіць, што іхняя кліентка гэткіх заяваў не рабіла.

Але у Расеі ўжо разгарнулася дыскусія – ці мог Лукашэнка фінансаваць левую апазыцыю?

Кіраўніцтва «Руху ў падтрымку войска» (Движение в поддержку армии – ДПА) працягвае адмаўляць фінансавы характар сваіх стасункаў з Аляксандрам Лукашэнкам. Як лічыць лідар арганізацыі Віктар Ілюхін, гісторыя са скандальнымі заявамі Тамары Рохлінай – гэта правакацыя, скіраваная супраць ДПА.

У інтэрвію радыё «Свабода» Віктар Ілюхін ня выключыў магчымасьці змовы паміж уладнымі структурамі і адвакатамі Тамары Рохлінай. Маўляў, Рохліна вылучае абвінавачваньні ў бок ДПА, і за гэта яна праз год ці два атрымлівае памілаваньне. Улады ж скарыстаюць ейныя заявы, каб забараніць Рух у падтрымку войска.

Што тычыцца адносінаў паміж Львом Рохліным і Аляксандрам Лукашэнкам, Віктар Ілюхін заявіў: «Канечне, Рохлін меў кантакты з Лукашэнкам. Але гэта былі дзелавыя кантакты, і ня больш таго. Нічога незаконнага. Ніякія грошы ад Лукашэнкі ДПА не атрымлівала».

Між тым, асобы незацікаўленыя ставяць пад сумнеў бяскрыўднасьць кантактаў Льва Рохліна з Лукашэнкам. Гэтую думку у інтэрвію радыё «Свабода» выказаў дырэктар інстытуту палітычных дасьледваньняў Сяргей Маркаў.

(Маркаў:) «У мяне няма сумневу, што Лукашэнка ўдзельнічаў у фінансаваньні некаторых палітычных партыяў Расеі».

На думку спадара Маркава, Лукашэнка рабіў гэта не з дабрачынных памкненьняў.

«Чалавек умешваецца ва ўнутраныя справы іншае краіны толькі тады, калі мае пэўныя мэты, – гаворыць спадар Маркаў. – У гэтым пляне дзеяньні Лукашэнкі ў Расеі ў нечым падобныя на дзеяньні Джорджа Сораса ў Беларусі. Сорас укладаў грошы ў Беларусь, бо ў яго была мэта – пабудаваць адкрытае грамадзтва. І Лукашэнка ўкладае грошы ў Расею, бо ў яго таксама ёсьць мэта, але свая – стварыць адзіную дзяржаву і выйсьці ў ёй на першыя ролі».

Спадар Маркаў упэўнены, што сам Лукашэнка ня быў уключаны ў магчымую схему фінансаваньня расейскіх апызыцыйных структураў.

«Я думаю, – адзначыў палітоляг, – што ён толькі даваў прынцыповую згоду, а фінансаваньне магло йсьці праз бізнэсоўцаў, блізкіх да беларускіх уладаў і залежных ад яе».

Такім чынам, лічыць наш суразмоўца, можна было заблытаць схему фінансаваньня, каб пазьбегнуць праблемаў з законам.

**Віктар Дзятліковіч, Масква**



Інфармацыйнае выданьне
Грамадзкага Аб'яднаньня Культурніцка-Асьветніцкіх Ініцыятываў "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ".
Распаўсюджваецца на правох рукапісу.
Адрэса для допісаў: 211440 Наваполацак-8, п\с № 26

Рэдакцыйная Рада: Вінцэсь Мудроў, Васіль Храмцоў, Уладзімер Кунцэвіч.

За дакладнасьць фактаў і лічбаў нясуць адказнасьць аўтары.
Думкі аўтараў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыйнай Рады